Пралетары усіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

БЕЛАРУСКІ ПРАМЫСЛОВЫ САЮЗ ПАЛЯЎНІЧАЕ КОО-ПЭРАЦЫІ І ЗЬВЕРАГАДОЎЛІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ IV

1930

№ 1

СТУДЗЕНЬ



Зімні пейзаж.

# АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА НА 1930 ГОД

НА САМУЮ РАСПАЎСЮДЖАНУЮ
НА БЕЛАРУСІ
ШТОМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА
ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАЦЫЙНАГА
САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

**ЧАЦЬВЕРТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ шырока адбівае пытаньні аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі, працу ахоткаапэрацыйных арганізацый Беларусі і жыцьцё на мясцох.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дапамагае правільнаму вядзеньню паляўнічай гаспадаркі, зьверагадоўлі, сабакагадоўлі і г. д.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ адбівае пытаньні барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць чытача з жыцьцём і норавамі жывёлы.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць сваіх чытачоў з паляваньнем за граніцай.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дае парады чытачом і зьмяшчае афіцыйныя пастановы і распараджэньні Ўраду, якія маюць сувязь з пытаньнем паляваньня.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ асьвятляе больш важныя палітычныя пытаньні краіны.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ садзейнічае разьвіцьцю кроўнай сабакагадоўлі і палепшаньню прамысловае сабакі.

У часопісі прымаюць удзел лепшыя навуковыя сілы на Беларусі, а таксама навуковыя сілы іншых рэспублік, практыкі паляўнічай каапэрацыі, пісьменьнікі-бэлетрысты і г. д.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На 1 год . . . . . . 2 руб. — к.
На поўгода . . . . . . 1 руб. 20 к.
На 3 месяцы . . . . . . . . 70 к.
Асобны нумар каштуе . . . . 30 к.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, усіх райбюро калектыву саюзу паляўнічых, акруговых праўленьнях і ў Ц. П. Белкахотсаюзу (г. Менск, Савецкая, 71).

# Выдавецтва „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

## МАЮЦЦА ДЛЯ ПРОДАЖУ:

Проф. **А. В. Федюшин.** Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР. 1 р. 50 к.
**Квяткоўскі і В. Федасееў.** Як здымаць шкуркі з пушных зьвераў. Перапрацавалі і прыстасавалі да беларускіх умоў Данькоў і Шмідт . . . — 25 к.
— 40 к.
**Аляксееў.** Паляўнічы сабака, яго гадоўля і муштроўка . . . — 45 к.
Проф. **Елагин.** Доходное кролиководство . . . 2 р. —
Камплекты часопісі „Паляўнічы Беларусі“ за 1929 г. . . .

**Пералічаная літаратура высылаецца па атрым. грошай ці наложаным плацяжом.**

ПЕРАСЫЛКА ЗА КОШТ ВЫДАВЕЦТВА.

*АДРАС: г. Менск, Савецкая, 71, В-ва „Паляўнічы Беларусі“.*

Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

№ 1 Студзень. Штомесячная часопісь орган Беларускага саюзу прамысло-ва паляўнічае коопэрацыі і зьверагадоўлі. Год выд. — IV 1930

| ПАДПІСНАЯ ПЛАТА: | |
|---|---|
| На 1 год | 2 р. |
| „ 6 м-цаў | 1 р. 20 к. |
| „ 3 м-цы | — 70 к. |

| АБВЕСТКІ: | |
|---|---|
| Старонка перад тэкстам | 150 р. |
| На апошн. стар. вокл. | 100 р. |
| Ззаду тэксту | 70 р. |
| Аб прапажы сабак | 1 р. |
| Аб прадажы сабак | 3 р. |

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
*Менск, Савецкая, № 71.*
*Тэлефон—405.*



## ПАД СЬЦЯГАМ ЛЕНІНА

Шэсьць год прайшло з таго часу, як сьмерць вырвала з нашых радоў барацьбіта сусьветнае пролетарскае рэвалюцыі, правадыра Камуністычнага Інтэрнацыяналу—арганізатара пролетарскіх перамог—Уладзімера Ільліча Леніна.

Адзначаючы шостую гадавіну, мы павінны праверыць пройдзены намі шлях бяз Леніна і наметціць, што мы павінны рабіць, каб надалей працаваць па-ленінскі.



Ленін завяшчаў нам „как зеницу ока“ хаваць адзінства і моналітнасьць нашае партыі. Наша партыя па-ленінску — па-бальшавіцку з усёй рашучасьцю выконвала гэты абавязак. У барацьбе на двох франтох—з „левымі“ фразёрамі і правымі ўхілістамі ад ленінскай лініі, партыя мацнела, загортвалася і перамагала.

Ленін завяшчаў нам хаваць саюз з асноўнай масай сялянства. Яго лёзунг аб змычцы гораду з вёскай быў і застаецца пэўным лёзунгам соцыялістычнага будаўніцтва краіны. Аб грунтоўнасьці гэтага лёзунгу сьведчыць шпаркі рост будаўніцтва нашае прамысловасьці і калгаснага будаўніцтва СССР.

Клопаты Леніна аб узмацненьні нашай соцыялістычнай прамысловасьці намі ажыцьцяўляюцца. Лёзунг—дагнаць і перагнаць передавыя ў тэхнічна-эканамічных адносінах капіталістычныя краіны пролетарыятам і працоўным сялянствам пад непасрэдным кіраўніцтвам сталёвай партыі бальшавікоў няўхільна праводзіцца ў жыцьцё. Той факт, што мы абагналі намечаныя тэмпы па 5-ці гадоваму пляну будаўніцтва—зьяўляецца лепшым доказам таго, што мы ідзем па правільнаму Ленінскаму шляху.

Ленін завяшчаў нам генэральнейшы плян электрыфікацыі. „Комунізм—гэта Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя“—так гаварыў Ленін. І мы прыняліся энэргічна і рашуча падводзіць пад нашую народную гаспадарку базу электрыфікацыі.

Коопэрацыі правадыр таксама вызначыў пэўныя шляхі. У сваёй спэцыяльнай кнізе „О кооперации“ Ленін даў цэлую програму дзейнасьці ўсіх сыстэм коопэрацыі, зьвязаўшы яе цесна з соцыялістычнай перабудовай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі Саюзу ССР, і на гэтым важнейшым участку працы мы маем вельмі значныя посьпехі.

Такі пройдзены шлях за шэсьць год без вялікага правадыра і настаўніка Леніна.

Шмат працы, шмат цяжкасьцяй яшчэ ўперадзе. Генэральная лінія нашае партыі па рэконструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі патрабуе ад кожнага з нас аддачы ўсёй энэргіі, усёй моцы соцыялістычнаму будаўніцтву.

Ня кнычучы, ня хістаючыся „засучив рукава“ з усёй рашучасьцю возьмемся за перамогу ўсіх цяжкасьцяй, за будаўніцтва соцыялізму.

З усёй рашучасьцю праз крытыку і самакрытыку, ня гледзячы на асобу, павядзем барацьбу з бюрократызмам, цяганінай, закасьнеласьцю і мяртвячынай.

У дзень шостай гадавіны сьмерці Леніна, даем клятву вернасьці справе Леніна—няўхільна працягваць барацьбу за канчатковую перамогу соцыялізму.



# Паляўнічая гаспадарка і зьверагадоўля



## Дабіцца пералому.

Плян пушных загатовак у першым квартале выканан толькі на 53 проц. Маючы такі вялікі працант недавыкананьня пляну мінулага кварталу прымушае нас яшчэ і яшчэ раз зьвярнуць увагу нашых загатаўцаў на ўзмацненьне работы па загатоўках.

Зьвесткі, якія паступаюць з месц, сьведчаць аб тым, што многія акруговыя таварыствы ня ўлічылі важнасьці гэтае кампаніі, ня ўлічылі ўдзельнае вагі пушных загатовак у пяцігадовым пляне аднаўленьне паляўнічай гаспадаркі.

Мы ўжо зараз маем ня мала заяў нашых загатаўцаў, што плян загатовак ня будзе выканан, так, напрыклад: Магілеўскае акруговае таварыства раней, чым ужыць якія-небудзь мерапрыемствы з свайго боку, каб як належа папрацаваць у гэтым напрамку, зараз ужо заяўляе, што плян загатовак на 100 проц ня будзе выкананы. Сваё нявыкананьне Магілеўскае акруговае таварыства матывіруе няспрыяючымі кліматычнымі ўмовамі, удзелам прыватніка на рынку загатовак і, „галоўнае“, што Магілеўская акруга бедная зьверам.

Замест практычнае працы, замест мабілізацыі ўвагі апарату і ўсіх паляўнічых на справу пушных загатовак, людзі заняліся зрывам пляну загатовак.

Мы добра ведалі і ведаем, што ў пэрыяд абастронейшае клясавае барацьбы на вёсцы кулак, а ў горадзе нэпман будзе перашкаджаць нам выконваць плян загатовак. І таму нашай задачай зьяўляецца, перамагчы гэтую спробу нашага ворага; даць па руках кулаку, ізаляваць прыватніка з рынку пушных загатовак, але-ж гэтага такія акругі, як Магілеўская, ня ўлічваюць.

Пры разьмеркаваньні кантрольных лічбаў пушных загатовак па акругах, „Белкохотсоюзам“, бязумоўна, былі ўлічаны прыродныя ўмовы акругі, і таму Магілеўская акруга стаіць не на першым мейсцы, а з васьмі акруг БССР на сёмым мейсцы, так што довады аб тым, што „Магілеўская акруга бедная зьверам“ і таму немагчыма выканаць плян загатовак, згодна кантрольных лічбаў, якія вызначаны для Магілеўскай акругі, не адпавядае сапраўднасьці.

Наступіў другі квартал пушных загатовак. Студзень і люты месяцы другога кварталу павінны быць ударнымі. Зараз-жа трэба зрабіць саадпаведны пералом у пушных загатоўках. Мейсцы, якія яшчэ не падрыхтаваліся, каб ізаляваць прыватніка з рынку пушных загатовак, каб забясьпечыць поўную здачу пушніны паляўнічымі ў сваю коопэрацыю, павінны зараз-жа выправіць гэту памылку.

У другім квартале павінен быць ня толькі выканан плян гэтага кварталу, але-ж трэба навярстаць упушчанае ў першым квартале.

Неабходна таксама адзначыць, што сартыроўка пушніны нядобраякасная. Пры здачы пушніны Гомельскай і Віцебскай акругамі Белдзяржгандлю, аказалася, што дзяржбракер адмовіўся прыняць па таму гатунку, па якому прынялі нашы загатаўцелі. На гэты бок таксама трэба зьвярнуць увагу.

Сучаснае становішча пушнога рынку патрабуе ад нашай сыстэмы мабілізацыі ўвагі ўсіх савецкіх і грамадзкіх арганізацый на аздараўленьне пушнога рынку. Бяз гэтае дапамогі, немагчыма будзе выканаць нашы пляны.

Толькі пры ўмове правядзеньня ў жыцьцё пералічаных вышэй мерапрыемстваў і чоткае работы райбюро і акруговых таварыстваў на пушным загатоўчым рынку, можна з упэўненасьцю сказаць, што ўскладзены на нашу сыстэму плян загатовак, ня гледзячы на напружанасьць, будзе выканан поўнасьцю і сваячасова.

**Міх. Шмідт.**



# Калектывізацыя сельскае гаспадаркі і вясеньняя пасеўкампанія.

Мінулы год соцыялістычнага будаўніцтва сельскай гаспадаркі пад кіраўніцтвам Кампартыі праходзіў ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Кулак прымаў меры да таго, каб пашкодзіць шырокаму тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва праз агітацыю супроць калектывізацыі, уздыму ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскай гаспадаркі; ён карыстаўся мэтадамі тэрору супроць актывістых батракоў, беднякоў і серадняков вёскі.

Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва далі нам матар'яльную базу ударыць па кулацтву, зламаць яго супраціўленьне.

Усё гэта патрабуе ад нас прыняцьця мер, каб у надыходзячую кампанію ня толькі замацаваць посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, а дабівацца яшчэ большых вынікаў.

Асноўнымі задачамі надыходзячых пасеўкампаній трэба лічыць: далейшае і яшчэ большае абагульненьне сельскай гаспадаркі шляхам узмацненьня існуючых саўгасаў і калгасаў, арганізацыю саўгасаў плошчай да 200.000 *га* і калгасаў ня менш 35 проц. да вясеньняга севу, 50 проц. да асеньняга севу і скончыць калектывізацыю ўсёй сельска-гаспадарчай тэрыторыі ў 1931 годзе.

Трэба яшчэ больш палепшыць вытворчасьць сельскай гаспадаркі шляхам павялічэньня пасеўнай плошчы ня менш, чым на 6 проц. і ўраджайнасьці ня менш чым на 25 проц у калгасах і 30 проц. у саўгасах.

Паколькі наша сельская гаспадарка мае жывёлагадоўчы напрамак, і павінна задавальняць патрэбы на малочныя і мясныя прадукты і нашу прамысловасьць сыравінай, плянам прадугледжана павялічэньне буйнай рагатай жывёлы на 10 проц. і сьвіней на 30 проц.

Гэтым тром асноўным задачам—*калектывізацыі, падняцьцю вытворчасьці, колькаснаму і якаснаму павялічэньню* жывёлагадоўлі і павінны быць падпарадкаваны ўсе нашы далейшыя мерапрыемствы ў сельскай гаспадарцы, каб атрымаць максымальна больш харчовых і сыравінных рэсурсаў ад сельскай гаспадаркі.

Ажыцьцяўленьне гэтых мерапрыемстваў магчыма толькі пры максымальнай увазе шырокай партыйнай і савецкай грамадзкасьці—рабочых, батрацтва, калгасьнікаў, беднаты і серадняцтва.

Узьняты ў мінулым годзе пад кіраўніцтвам Кампартыі масавы рух за калектывы зараз ахапіў ужо ня толькі асобныя двары і паселішчы, а цэлыя раёны і акругі, як Клімаўшчына, Жлобінскі, Ляднянска-Дубровенскі і інш. раёны (80—90 проц. усіх двароў). Трэба ўдзяліць максымум увагі гэтаму руху, яго замацаваньню і далейшай калектывізацыі, ператвараючы, такім чынам, дзесяткі тысяч маленькіх вытворчых і індывідуальных гаспадарак у пэўныя буйныя зярнёвыя фабрыкі.

Трэба ў мэтах падняцьця вытворчасьці сельскае гаспадаркі зараз-жа правесьці працу па ачыстцы і адбору насеньня, палепшаньню ўгнаеньня палёў, выкарыстаўшы для гэтае мэты попел, вапну і інш. Гэта работа павінна быць зроблена пад лёзунгам — *ніводнага саўгасу, калгасу, бядняцка-серадняцкае гаспадаркі* ня выкарыстаўшых мясцовыя ўгнаеньні.

Сярод шырокіх колаў беднаты і серадняцтва пры ўступленьні іх у калгасы трэба павесьці растлумачальную працу супроць разбазарваньня ската, а дзе гэта праяўляецца ў масавым парадку,—зрабіць грамадзкі ўплыў з боку беднаты, праводзячы гэту работу пад лёзунгам максымальнага абагульненьня жывёлы ўступаючых у калгасы і вырашчываньня маладняка. Задача разьвіцьця жывёлагадоўлі павінна быць шчыльна ўвязана з пашырэньнем кармовых рэсурсаў, для чаго трэба папулярызаваць травасеяньне, а дзе гэтага зараз ня робіцца—заставіць рабіць у парадку законаў аб аграмініюме і зоомініюме. Усе гэтыя мерапрыемствы трэба праводзіць у плянавым парадку.

Калі дзе-небудзь у калгас залезе кулак, зараз-жа яго выключыць. Замест кулацкага скарачэньня плошчы засеву, павялічыць плошчу засеву ў калгасах, саўгасах і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.

Толькі калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, толькі максымальная мабілізацыя ўвагі да правядзеньня ў жыцьцё гэтых галоўнейшых мерапрыемстваў партыі палепшыць матар'яльнае і культурнае становішча батрака, бедняка і серадняка.

**Масюкоў.**

**Батракі, бедната і сераднякі! —уперад, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, адзіным фронтам на будаўніцтва калектыўнага земляробства!**

**Дамо рашучы адпор кулакам і сэктантам, якія спрабуюць сарваць калектывізацыю.**

**Ужыць рашучыя захады супроць тых, хто разбазарвае насеньне і скаціну.**

# Пяцігодка паляўнічае гаспадаркі правільная.

*(Адказ т. Дзярыбе на арт. „Да рэарганізацыі паляўнічае гаспадаркі“).*

У № 11—12 „Паляўнічы Беларусі“ за 1929 год т. Дзярыба зусім своечасова ўзьняў пытаньне аб палепшаньні паляўнічае гаспадаркі, дзе ён справядлова сказаў, што яшчэ вельмі мала зроблена ў гэтым напрамку. Але, даючы паказаньні, як яе палепшыць, т. Дзярыба зайшоў ня туды, куды трэба, бо яго прапановы трохі пахнуць чужым, ня нашым.

На Беларусі кіруе паляўнічай гаспадаркай Наркамзем праз спэцыяльны орган—Беларускі прамысловы саюз паляўнічай і зьверагадоўчай коопэрацыі.

Тав. Дзярыба ўносіць прапанову зьмяніць гэту сыстэму, але не гаворыць як зьмяніць. Ён толькі прапаноўвае „адмовіцца ад консэрватызму“... і раіць „пайсьці па шляху арганізацыі прыпісных паляўнічых гаспадарак, г. зн. пачаць перадачу на ўмовах на вядомы тэрмін выключнага права паляваньня на данай тэрыторыі вызначанай групе паляўнічых“.

Але ён у сваім артыкуле нічога не гаворыць аб умовах, на якіх павінна праводзіцца прыпіска—бясплатна ці, каб больш „зацікавіць“ паляўнічых,—за плату.

Калі гутарка ідзе аб платнай прыпісцы, то гэта ёсьць ня што іншае, як арэнда ўгодзьдзяў „вызначанай групай паляўнічых“. Тут зусім відавочна думка т. Дзярыба, хаця яна і прыкрыта „гаспадарчым адстрэлам“ ды „гаспадарчай калектывізацыяй“ паляўнічых.

Калі рабіць прыпіску дарэмна, то куды прыпісаць тады гарадзкіх паляўнічых, якіх у нас маецца 33%. А як забараніць на арэндуемым гарадзкімі паляўнічымі ўгодзьдзі паляваць тым паляўнічым, якія там жывуць—тут было-б і палітычна ня зусім вытрымана, роўна як была-б ня вытрыманай і сумесная арэнда вясковых і гарадзкіх паляўнічых.

Апроч таго, калі прыпіску рабіць за плату, то, вядома, багацейшыя дзічынай вучасткі пападуць багацейшым паляўнічым, бо правесьці пры арэндзе клясавую лінію будзе цяжка і вучасткі з лепшых пападуць таму, хто больш дасьць.

Зараз мы пагаворым, ці палепшыцца паляўнічая гаспадарка ад такой прыпіскі.

Нам здаецца, не. Нічога ня знача, што: „прыпіска паляўнічых угодзьдзяў шырока практыкуецца ў сучасны момант ў РСФСР“.

Уперад за ўсё ў РСФСР і сыстэма іншая, і ўгодзьдзі багацейшыя дзічынай, і іх больш. Там жывуць цэлыя народы, для якіх паляваньне зьяўляецца сродкам існаваньня. Там шмат паляўнічых яшчэ і дагэтуль некоопэраваных і ім паляваць дазваляецца ўсё-ж такі. Пры такіх умовах, правядзеньне арэнды і прыпіскі зьяўляецца сродкам прыцягненьня ў коопэрацыю паляўнічых-прамыславікоў і „гаспадарчае коопэраваньне іх“ і інш. прыгожыя рэчы, намалёваныя т. Дзярыба, за выключэньнем калектыўнае дабычы, бо пры такой сыстэме ня член саюзу паляўнічых ужо ня будзе паляваць на заарэндаваным вучастку, а арэндоўвающца паляўнічымі толькі лепшыя ўгодзьдзі.

На Беларусі-ж паляваньне чыста аматарскае і па існуючых законах паляваць можа толькі член саюзу паляўнічых, а таму і няма патрэбы ўводзіць арэнду, бо яна, калі можна так сказаць, ужо існуе, паколькі паляўнічыя ўгодзьдзі фактычна знаходзяцца ў карыстаньні саюзу паляўнічых.

Далей аб вядзеньні паляўнічае гаспадаркі наогул.

Па думцы т. Дзярыба паляўнічыя ў прыпісных угодзьдзях самі возьмуцца за вядзеньне паляўнічае гаспадаркі. Але т. Дзярыба ве падумаў, на якія сродкі яны гэта будуць рабіць, а сродкі патрабуюцца не малыя і на ахову, і на падсеў кармавых траў, і на падсадку дзічыны, і шмат на што. Гэтых сродкаў не адкуль узяць, а бядняк не пажадае самаабкладвацца, бо ў яго ня будзе сродкаў.

Што датычыць РСФСР, то я хачу з кніжкі „Перспективы развития системы охоткооперации на пять лет 1927—1932 г.“ Издание Всекохотсоюза. Москва. 1928 г. працыціраваць т. Дзярыбе, як там павінна разьвівацца паляўнічая гаспадарка.

У аддзеле IV „Охотничье хозяйство“ намячаюцца тры тыпы паляўнічых гаспадарак. Першы—„прамысловы, г. зн. не арганізаваны“. Другі—„правільна арганізаваная паляўнічая гаспадарка з заботай аб вытворчасьці паляўнічых угодзьдзяў, пабудаваная па прынцыпу чарговага адстрэлу па тэрыторыі ці відовага адстрэлу“—сыстэма заказьнікаў. Трэці—„культурныя паляўнічыя гаспадаркі“.

Галоўная думка гэтых мерапрыемстваў зводзіцца да таго, каб у прамысловых раёнах шляхам прыпіскі некалькі ўпарадкаваць адстрэл. У паўпрамысловых і няпрамысловых раёнах шляхам утварэньня заказьнікаў і культурных гаспадарак даць магчымасьць рэгуляваць рост зьвера і птушкі і ўтварэньня прамысловае зьверагадоўлі.

Паляўнічая гаспадарка БССР павінна разьвівацца таксама па гэтаму шляху—арганізацыі запаведнікаў, заказьнікаў, культурных гаспадарак і зьверагадоулі, паколькі ў нас паляваньне аматарскае.

Але арганізоўваць заказьнікі трэба ня так, як гэта было раней. У заказьніках трэба наладзіць падлік фаўны, падкормку зьвера і птушкі, забараніць там усякае паляваньне, пастановы аб устанаўленьні іх публікаваць у друку, на іх павінна быць складзены пляны-карты з паказаньнем стану фаўны, рабіць падсеўку траў для падкормкі і аховы птушкі і зьвера і цэлы шэраг іншых мерапрыемстваў.

Культурныя гаспадаркі павінны быць пабудованы на аснове навуковых даных і дасьледваньня з заботай аб вытворцах. У гэтых культурных гаспадарках павінны арганізоўвацца гадавальнікі пушных зьвяроў.

Разам з гэтым павінны быць прыняты меры па ахове зьвера і птушкі наогул на Беларусі. Сюды ўваходзіць устанаўленьне тэрмінаў і правілаў паляваньня, забарона да адстрэлу некатарых відаў птушкі і зьвера па паасобных раёнах і па ўсёй Беларусі, культасьветная праца, устанаўленьне дакладных тэрмінаў гандлю скуркамі зьвяроў і птушак, узгадняючы ўсё гэта, а таксама і пляны загатовак пушніны з таварыствам „Аховы прыроды“.

Можна было-б увесьці рэгуляваньне адстрэлу дзічы і зьвера, але, я думаю, што пры існаваньні шмат заказьнікаў гэтага не патрабуецца.

Ітак, існуючая сыстэма паляўнічае гаспадаркі павінна застацца. Пяцігадовы плян разьвіцьця паляўнічае гаспадаркі, зацьверджаны Урадам, можна перагледзець толькі ў напрамку скарачэньня тэрмінаў, пасіленьня тэмпаў, а не прынцыповых зьмен.

**Сьмірноў.**

## Трэба абгаварыць.

Дзяржаўны запаведнік за апошнія часы, як відаць з артыкулаў, якія друкаваліся ў часопісе „Паляўнічы Беларусі“, газэце „Савецкая Беларусь“ і „Беларускі „Батрак“, а таксама з тых вестак, што маюцца ў Наркамземе і „Белкохотсоюзе“ разбураецца.

Кіраўніцтва з боку НКЗема, Дзяржаўным запаведнікам зусім няма. Наркамзем дайшоў нават да таго, што перадаў гэтую, вельмі цікавую Навуковадасьледчую ўстанову, Менакрза. Як у Менакрза, так і ў Наркамземе запаведнікам зусім ня цікавяцца, ды там і няма каму цікавіцца ім, бо няма спэцыялістаў-паляўніцтвазнаўцаў.

Пасаду інспэктара пабочнага карыстаньня лясамі пры НКЗ, вядома, нельга лічыць дастатковай для кіраўніцтва паляўнічай гаспадаркай наогул і дзяржаўным запаведнікам—у прыватнасьці.

Мне думаецца, што ў мэтах падняцьця запаведніка на павінную вышыню і атрыманьня ад яго таго, чаго жадалі пры арганізацыі, трэба запаведнік з-пад кіраўніцтва НКЗема ўзяць і перадаць Народнаму Камісарыяту Асьветы.

Мне хочацца, каб паляўнічыя выказалі сваю думку па гэтаму пытаньню.

**Сьмірноў.**

## Да артыкулу „Трэба абгаварыць“.

Трэба згадзіцца з т. Сьмірновым, што Беларускі дзяржаўны запаведнік даведзены Наркамземам амаль што да поўнага яго разбурэньня. Зусім правідлова, што запаведнікам ні Наркамзем, ні Менакрза ня цікавіліся, а калі-б яны і хацелі цікавіцца, дык не маглі, бо ня было каму.

Зусім правідлова думка т. Сьмірнова і аб пераданьні запаведніка Наркамсьветы, але пераданьні яго няпоўнасьцю, а толькі для вывучэньня таго багацьця, якое там ахоўваецца, для якой мэты, галоўным чынам, мне думаецца, запаведнік і арганізоўваўся, гэта значыць, каб Наркамасьветы зацікавіўся гэтым пытаньнем і вёў там навуковую працу, пабудаваўшы ў запаведніку навуковыя ўстановы.

Што датычыць поўнай перадачы запаведніка Наркамасьветы, то гэта, па мойму, будзе нямэтазгодна.

Перш-на-перш такая перадача выклікае няўвязку ў эксплёатацыі лесу і сенажацяй на тэрыторыі запаведніку мясцовымі сялянамі, якія жывуць там, бо, паколькі, Наркамзем зьяўляецца гаспадаром лесу, то яму лягчэй і вырашаць гэтыя пытаньні, не перадаючы іх у іншыя органы.

Па-другое, могуць быць цяжкасьці з аховай запаведніка, з яго ўтрыманьнем, падсевам траў для падкормкі зьвяроў і птушак; з падсевам лесу.

Зараз запаведнік зьяўляецца часткай гаспадаркі Наркамзема, а калі яго перадаць іншай установе, якая ня мае дачыненьня да лясной гаспадаркі, то тут, бязумоўна, паўстане пытаньне аб дадатковых асыгнаваньнях на яго ўтрыманьне,—гэта ў той час, калі мы павінны берагчы кожную капейку.

Апрача таго на тэрыторыі запаведніку і зараз яшчэ жывуць сяляне, аб высяленьні якіх хаця і ёсьць пастанова, але выселіць іх пакуль нават Наркамзему не ўдаецца, а тым больш ня ўдасца Наркамасьветы, паколькі гэта пытаньне зьвязана з наданьнем гэтым сялянам іншых вучасткаў землякарыстаньня.

Выходзячы з гэтага, мне думаецца, што перадаваць поўнасьцю Беларускі дзяржаўны запаведнік—частку лясной гаспадаркі Наркамасьветы—нямэтазгодна.

**М. Я. Цэлеш.**

## Ондатровое хозяйство.

В текущем году Госторгом предприняты большие работы по организации в СССР первых племенных рассадников по разведению ондатры. Под именем ондатры известна широко распространенная по пресноводным бассейнам Северной Америки водяная мускусная крыса, отличительным признаком которой является, кроме запаха мускуса, еще длинный, покрытый чешуйками и редкими волосками черный хвост. Громадный спрос на меха ондатры, наравне с широким успешным развитием этого хозяйства за последние годы в Канаде, делает опыты акклиматизации ондатры в СССР чрезвычайно выгодными.

Звероводческое совещание при Госторге признало необходимым приступить к немедленной организации ондатровых ферм на Соловецких островах и в Лосиноостровском опытном лесничестве под Москвой. Особенно важное значение имеет сооружение ондатровой фермы под Москвой, с обеспечением ее высококвалифицированной научной силой для предварительного исследования условий жизни ондатры. Кроме того, вольное разведение ондатры предположено организовать в Якутии, на севере Сибири, в районе Енисея, Оби, Лены, в области Коми, в Карелии, на Мурмане, в Архангельской и Вологодской губ.

## Сезонная окраска косуль.

В августовском заседании п. г. Физико-математического отделения Всесоюзной Академии наук К. Флеровым было сообщено о результатах его исследования над сезонными изменениями волосного покрова у сибирской косули, играющими, по его мнению, большую роль в систематике оленей. В качестве материала им было обследовано несколько сот шкур оленей и косуль, находящихся в коллекции зоомузея Академии наук. На основании этих исследований он приходит к выводу, что в следствие большой ломкости, волосы оленей быстро снашиваются, линяют, а от этой линьки зависит и смена окраски волос. Смена меха у косуль происходит обычно два раза в году: весной и осенью. В летнее время цвет шерсти оленей бывает яркорыжего, блестящего цвета. К осени он приобретает сероватый цвет, с легким палевым оттенком.

**„Н. и Т.“**

# КІРАВАЦЬ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ СПАБОРНІЦТВАМ!

Дапісы з мейсц, якія мы друкуем у гэтым нумару „ПБ“ аб разгортваньні соцыялістычнага спаборніцтва, зьяўляюцца для нас вельмі прыемнымі.

Соцыялістычнае спаборніцтва стала сапраўды аружжам мас па найлепшаму, найхутчэйшаму выкананьню стаячых перад намі задач па будаўніцтву соцыялістычнай гаспадаркі.

У асноўным на сёньняшні дзень соцыялістычнае спаборніцтва ахапіла ўсю пэрыфэрыю. Гэта вельмі добра, але-ж ёсьць і такія месцы, дзе да такой вялікай справы, як соцыялістычнае спаборніцтва, адносяцца фармальна, бюрократычна, па-чыноўніцкі. Ёсьць такія мейсцы, дзе соцыялістычным спаборніцтвам акруговыя таварыствы райбюро ня кіруюць.

Бюрократы, фармалістыя з Аршанскага райбюро саюзу паляўнічых, разглядзеўшы праект дагавору аб соцыялістычным спаборніцтве, прысланы акруговым таварыствам, пастанавілі: „прыняць да ведама“. Чарэйскае райбюро (Аршаншчына) яшчэ ў кастрычніку месяцы 1929 г. выклікала на соцыялістычнае спаборніцтва Крупскае райбюро, але-ж і па гэты час адказу яшчэ няма.

Такія адносіны да соцыялістычнага спаборніцтва недапушчальны.

Характэрна, што гэта мае месца ў такіх акругах і раёнах, дзе няма ніякае працы, да якіх адносіцца Аршанскае таварыства са сваімі раёнамі.

Паляўнічыя масы патрабуюць ад сваіх кіраўнікоў разгортваньня працы, а кіраўнікі маўчаць. Ніводзін яшчэ з раёнаў Аршаншчыны ня прыняў выкліку на соцспаборніцтва ў той час, як ужо ў шмат раёнах іншых акруг соцспаборніцтва дайшло да сельячэек, да асобных паляўнічых.

„Белкохотсоюз“ прыняў выклік Украіны на соцыялістычнае спаборніцтва і ў сваю чаргу выклікаў Азэрбайджан. У гэтым нумары мы друкуем паведамленьне Азэрбайджану, што выклік прыняты. „Белкохотсоюз“ падпісаў дагаворы на спаборніцтва ня толькі ад імя апарату Цэнтральнага Праўленьня, а ад імя ўсяе трыццацітысячнае арміі паляўнічых БССР, а таму за яго выкананьне адказвае кожны паляўнічы, кожная ячэйка, раённае бюро і акруговае таварыства. Гэта павінны ўлічыць тыя таварышы, якія да гэтага часу не ўявілі важнасьці соцыялістычнага спаборніцтва.

Мала разглядваць, выклікаць і падпісваць дагаворы на соцспаборніцтвы, а трэба яшчэ гэтым соцыялістычным спаборніцтвам кіраваць, каб яно стала сапраўды соцыялістычным. **Міх. Шмідт.**

## Ячэйкі спаборнічаюць.

*(Рэчыцкі раён, Гомельшчына).*

Жануроўская паляўнічая ячэйка ўступіла ў соцыялістычнае спаборніцтва з Капанскай паляўнічай ячэйкай на поўнае зьнішчэньне ў 1930 годзе браканьерства; на зьнішчэньне драпежнікаў, бадзячых сабак, кошак, варон, сарок; на правядзеньне па адной аблаве; на лепшую ахову паляўнічае гаспадаркі і месц гнездаваньня.

Бабіцкая ячэйка выклікала Васілевіцкую на лепшую пастаноўку культработы, пабудову паляўнічага кутка, усім членам падпісацца на часопісь „Паляўнічы Беларусі“, па барацьбе з драпежнікамі і ахове паляўнічае гаспадаркі.

Дуброўская паляўнічая ячэйка выклікала Залатаўскую („воўчыя раёны“) на зьнішчэньне ў 1930 г. па 10 шт. ваўкоў на ячэйку. Стопроцантную задачу пушніны ў калектыў, палепшаньню на 25% якасьці пушніны.

Нахаўская ячэйка выклікала Залатаўскую паляўнічую ячэйку на правядзеньне 2-х дзеньніка на карысьць абароны краіны.

Наогул, паляўнічыя ячэйкі раскачваюцца. Трэба спадзявацца, што ячэйка за ячэйкай прымуць удзел у спаборніцтве.

**Онак.**

## Выконваем дагавор.

Па соцыялістычнаму дагавору з Сьмілавіцкім райкалектывам Смалявіцкі раён павінен быў правесьці раённую вывадку паляўнічых сабак і стральбу па талерачках.

Усё гэта 24 лістапада адбылося.

Дрэннае надвор'е, праўда, некалькі памяшала ў правядзеньні гэтае работы. Было прыведзена толькі 41 сабака, а павінна быць іх куды больш.

Судзьдзёй на вывадцы быў т. Барташ, які адзначыў вялікую зацікаўленасьць ў сабакагадоўлі.

Лепшы выжлец „Шум“ Бруякіна Г., куплены з Беларускага гадавальніка сабакам шчанюком, атрымаў дыплём І ступені. Былі выданы ўзнагароды і іншым сабакам.

У каманднай стральбе па талерачках лепшай была Смалявіцкая ячэйка, у індывідуальнай стральбе— Юшкевіч А. і Мархель У. **Паляўнічы.**

## Падпісаліся і выклікаюць.

Чарневіцкая сельячэйка паляўнічых Барысаўскага раёну, заслухаўшы на агульным сходзе інфармацыю старшыні ячэйкі аб падпісцы на пазыку пастанавілі падпісацца ня менш як на 25 руб., дзеля чаго правесьці два калектыўных паляваньні па парошы і ўсю здабытую пушніну ад гэтага здаць на пазыку. Акрамя гэтага кожнаму паляўнічаму ў дадатак да гэтага здаць па аднэй першагатункоай скурцы ваверкі і выклікалі на спаборніцтвы Азьдзяцкую ячэйку паляўнічых. **С. Глушэц.**

## Чэрвенцы выклікаюць.

Чэрвенскі калектыў паляўнічых выклікаў на соцыялістычнае спаборніцтва Сьмілавіцкі раённы калектыў па ўсіх галінах працы паляўнічае гаспадаркі і каапэрацыі.

**Чэрвенскае райбюро.**



# Жыцьцё і быт паляўнічага



**М. Р. Гадыцкі.**

## Ламанка не патрэбна...

*(Быль).*

На беразе вялікага балота Вароніцкага прытулілася маленькая вёска „Баравыя“. Баязьліва абляпіўшы лысыя пясчаныя ўзгоркі, хмура паглядалі яе хаткі з-пад тоўстых абросшых імхом саламяных стрэх сваімі маленькімі вакенцамі на роўную скацерку нетры Вароніцкага балота і на сінеўшы за балотам (як на далоні) магутны бор.

Тут у аднэй пахіленай халупцы гадоў з трыццаць назад пачаў сваё жыцьцё наш Іван. Ня ласкава яно яго спаткала ў беднай сям'і бацькоў; але гэта не перашкодзіла яму, ня гледзячы ні на цёмную закопчаную лучынаю і без падлогі хату, ні на голад, ні на холад, хутка падняцца на ногі і стаць, нават, мацнаватым хлапчуком і паляўнічым.

Ня ведаю, ці ён паляўнічым радзіўся, ці зрабіўся ім; толькі моцна палюбіў Іван паляваньне, сваю нікчэмную адзіночку і выгадаваўшае яго Вароніцкае балота.

У рэдкую раніцу вясною можна было яго застаць дома—ён або на Баравой, або на Доўгай [1]). Ён браў мяне з сабою і мы падоўгу праседжвалі, любуючыся яснай, ціхай і цёплай раніцай красавіка, калі чорныя хмары цецярукоў, густа абляпіўшых куп'е, вараць (як кажуць паляшчукі) балота; калі чуць ня з кожнай хвойкі імху [2]) чутна „паляскаваньне“ глушца; калі па пазалочаных цьветам лотаці [3]) процерабах пасуцца гарбаносыя гарбатыя красаўцы-вяліканы ласі; калі птушкі прыціхалі, мы пакідалі балота.

У Івана пры торбе, часам вісеў цецярук, а часам і нічога—не затым, што нельга было забіць, а затым, што не хацелася парушаць прыгожасьць раніцы.

Так падрастаў Іван... Гады ішлі...

Івана ўжо бяруць і на ласёў, ды і ня толькі ўлетку, але і ўзімку. Я памятаю ноч [4]), калі Івану ўпяршыню на яго „малітвы“ ўзяць на ласёў, адказалі: „пойдзеш“. Страшная была ноч... Мяцеліца, здавалася, хацела замесьці ўсё жывое; лес стагнаў, кланяючыся да самай зямлі, і крышыўся... ў гэтую ноч Іван забіў лося; грошы за скуру яго адклаў на ламанку.

Туга набліжалася ламанка—заробкі дрэнныя, гаспадарка бедная, а тут, як на ліха, прызыў надыйшоў...

Маці Івана ўсё часьцей і часьцей выцірала сьлёзы, пазіраючы на сына, як-бы чуючы яго ліхую долю. Іван—салдат.

Ён цярпліва зносіць зьдзекі афіцэрства Сібірскага стралковага палку і ня можа дачакацца канца службы... Пяты год блізіўся да канца... Іван ужо марыў, як ён хутка назьбірае на ламанку, і як будзе з ёю паляваць, толькі ня збыліся яго мары!

Пачалася імпэрыялістычная вайна і кінула Івана замест дому на заходні фронт. Тут ён, праўда, ня доўга слухаў роў гармат і піск куль; сьмерць таксама не спаткала яго, бо ён хутка папаў, пагніўшы крыху ў палоньніцкім нямецкім бараку на фэрму да немца.

Цяжка жылося, тут Івану. Ён моцна працаваў, думаючы нечалавечаю працаю задушыць нуду, скараціць час і кожны дзень падоўгу глядзеў на ўсход і кожны дзень чакаў канца вайны... Іван ужо ня думаў, што ён калі небудзь абніме старых сваіх, угледзіць Вароніцкае балота, але яму дапамог „Кастрычнік“, які паказаў салдатам за што яны гінуць мільёнамі на франтох; адразу сышлі хмары з твару Івана, а замест яго засумаваў фэрмер, пачуўшы, што хутка прыдзецца расстацца з дарэмным ды такім удалым працаўніком, і ў пачатку студзеня 19 года ён вымушан быў аддаць Івану паперы і за чатыры гады цяжкай працы сказаў—„слабодзен“ і „калі хочаш застаньця ў мяне служыць“.

Іван не застаўся...



Пад дубам.

1) Суградкі на Вароніцкім балоце.
2) Мох—частка Вароніцкага балота.
3) Лугавая расьліна, цьвіце вясною жоўтым цьветам—смачнае сьнеданьне ласёў, за якое яны часта плацяцца жыцьцём.
4) Зімою палявалі ноччу, каб ня чуцен быў стрэл, а ў мяцеліцу каб сьлед замяло ад княжых стражнікаў.

Праз некалькі дзён ён у дарозе. Ен хапаўся хутчэй даехаць дадому туды, дзе трэба было дапамагаць народжанай Кастрычнікам пролетарскай дзяржаве.

Цяжкая была дарога. Шмат прыходзілася ісьці пехатой, шмат ён галадаў. Сілы ніклі і, Іван не ўстаяў перад „Іспанкаю“ [1]), якая моцна гуляла па ўсім Захадзе з касою сьмерці і касіла направа і налева.

Іван зваліўся з ног і ў абарванай аўстрыйскай шынэльцы валяўся на каменнай падлозе разьбітага вайною невялічкага польскага вакзала. Чорная і халодная ноч сьнежня нізала марозным ветрам і імглою праз разьбітыя шыбы вакзала Івана наскрозь. Павылазіўшыя з куткоў галодныя пацукі падступалі да Івана і заглядалі ў вочы, як-бы пытаючыся—„ці не пара пачынаць“. Жудасьць і чорныя думкі „няўжо-ж тут паміраць“ сабралі апошнія сілы Івана. Ён, трымаючыся за сьцяну, чуць-чуць дапоўз да начальніка вакзала. Сваім страшэнным выглядам і горкімі сьлязьмі крануў Іван цьвёрдае сэрца начальніка і з першым цягнікам Іван праехаў мяжу Польшчы і Рэспублікі працоўных. У Менску Івана абагрэлі, накармілі і загадалі „ня рыпацца“, калі хочацца жыць. Толькі не паслухаў Іван добрых саветаў і, крыху акрыяўшы, пусьціўся дадому, бо вельмі захацелася паглядзець на старых бацькоў.

Дорага заплаціў Іван за такое жаданьне. Шпацар ад вакзала Пухавіч дадому ў 40 кілёмэтраў па мерзлай глебе і марознаму ветру ня толькі вярнулі іспанку з падвоенай сілай, а дадаў і крупознае запаленьне лёгкіх.

Івана паклалі на пасьцель—няцікавае было спатканьне бацькоў з сынам.

Я быў недалёка на службе і атрымаўшы наказ: „Іван прыехаў“, зараз-жа прымчаўся. У кутку на ложку ляжала высахлая фігура. Цяжка было пазнаць. Я прывітаўся. Ледзь прыадкрыўшы вочы Іван глянуў на мяне і пазнаў.

Доўга апавядаў мне і бацьком Іван пра ўсё, што ён вытрымаў за 9 год.

„...І вось што заслужыў я ад цара і ад яго прысьпешнікаў“,—кончыў Іван, цяжка ўздыхнуўшы. Дзьве буйных сьлязы скаціліся па высахшаму твару.— „Ведаеш, як жыць хочацца“ зьвярнуўся ён да мяне і праз паўгадзіны дадаў—„Дзякуй табе за ламанку, толькі чую я, што не паляваць мне з ёю“. Больш трымацца ня мог і я разьвітаўся, абяцаўшы прыехаць назаўтра з ламанкаю.

Назаўтра з ламанкаю я імчаўся да Івана. Пад'ехаў да хаты і страх нейкі абхапіў мяне. Векавыя хвоі ціха шумелі, чуць хістаючыся сваімі вяршынамі і я спыніўся.—„Патрэбна ламанка, ці не?“.. Нияк цяжка на сэрцы. Ногі падкошваюцца, але я ўзяўся за клямку і ўбачыў, што ламанка не патрэбна. Іван ляжаў на ложку нярухомы!

[1]) Хвароба.

**Яўгені Зомэрфэльд.**

# Рысь.

*Шпарка бегла ў чыстым полі*
*Шэрай кошкай рысь.*
*Вецер з дрэвамі сваволіў*
*Як і я калісьць.*

*Прыгінала свае вушы*
*Несла хвост трубой,*
*На'т ня чула лютай сьцюжы,*
*Што была над ёй.*

*Белым роем асыпаўся*
*На зямліцу сьнег,*
*Бы пялёсткі раскідаўся*
*Серабрысты брэх.*

*Паляўнічы і сабакі*
*Перад імі рысь.*
*Ой, ты рысю, затуманься.*
*Сьцеражыся рысь!*

*Паднімала свае лапы:*
*На шляху капкан...*
*Заліліся крою раны,*
*Пахіліўся стан.*

. . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . .

*Сваю лапу адкусіла,*
*Не змагла цярпець...*
*Ад жыцьця ўдачы мала:*
*Даганяе сьмерць.*

*Прабавала на трох лапах*
*Уцякаць далей,*
*Ды клубком ляцеў на пятках*
*Ад берданкі стрэл.*

*Кроў разьлілася кармінам.*
*Лужына крыві...*

*У сэрца капнула палынам*
*У вачох агні.*

*Больш ня будзе бачыць лесу*
*І прыгожых мар,*
*Бо зімовую „пралеску“*
*Даканаў „Султан“.*

*Вецер ахнуў, поле плача,*
*А стралок сказаў:*
*„Эй, падай рыся сабака*
*Панясу прадам“.*

*Так рабіла рэйс апошні*
*Рысь у родны кут,*
*Так над ёй у сьнежнай пожні*
*Выканан прысуд.*

**Валеры Маракоў.**

# Заяц.

*Заяц упаў на сьнег,*
*Стрэл быў сухі і кароткі...*
*І задуменнаму мне*
*Сьніцца ў крыві бародка.*

*Круціцца дым ад крыві*
*Сэрца кранулася*
*Й стала...*
*„Быццам і жыў і ня жыў“—*
*Глуха зямля запытала.*

*Вышаў стралок да яго*
*Узяў і закінуў*
*За плечы.*
*Веяла поле тугой*
*У полі і вецер*
*І вечар...*

*У сінюю скрынку душы*
*Раптам ударыла сьнегам,*
*Заяц для смажэньня*
*Жыў,*
*Толькі для шчасьця бегаў.*

*Зьнік той стралок,*
*Ня відаць.*
*Што я стаю ў задуменьні*
*Можа быць*
*Зайца шкада,*
*Можа сваіх лятуценьняў.*

# В глуши.

ВСЕ ОХОТНИКИ, жившие в окрестностях лесной дачи, прекрасно знали, что багряная выжловка „Эльба“—собака редких качеств,—превосходная работница, несмотря на молодость.

Знал это и я,—лесник дальнего, за „Белыми речками“, обхода.

Я давно мечтал о хорошей собаке.

Однажды, на рассвете, придя в контору, я узнал, что лесничий, в связи с от‘ездом па постоянное жительство в город, решил продать „Эльбу“.

Отсутствие денег и непреодолимое желание скорее сделаться хозяином этой удивительной собаки, заставили меня действовать крайне решительно.

Я немедленно покинул контору и вернулся домой. Здесь собрал заячьи и беличьи шкурки, всю добычу прошедшей зимы.

К утру я пришел в город и продал пушнину. Необходимые шестьдесят пять рублей теперь лежали в кармане моей потрепаной тужурки. Возвращаясь домой, много думал о собаке, так как считал ее своей. Вечерело, когда подходил к конторе.

Получив деньги, лесничий позвал „Эльбу“. Последний раз, приласкав собаку, он сел в тарантас. Застоявшиеся лошади, пара сухотелых гнедых, взяли с места бодрой рысью и через несколько минут, тарантас, окруженный облаком пыли, скрылся в овражке.

В полночь я подходил к своей сторожке.

Рядом, на ремешке, покорно бежала „Эльба“.

В совернейшей тишине лежали знакомые места.

За лесными полянами всходила луна.

Зарево восхода казалось близким...

* * *

С нетерпением ожидал я осени.

Время шло своими чередом.

С каждым днем, лес и поле все ярче украшались осенними признаками.

Затихали веселые звоны перепелов.

Августовские зори тихо тлели в безветрии. Разузорились тонкой позолотой веселые березняки опушек. Полем протянулись нити сквозной паутины. Над безлюдным простором утвердилась надолго осенняя тишь. Сумерками просинь небосклона на востоке делалась блеклой суля погоду на многие дни. Нарождалось „баб‘е лето“—счастливая пора охот по черной тропе.

---

Я люблю ходить чернотропом за зайцами. И сухо и тихо, и видать далеко в тусклоликие сентябрьские дни.

Накануне первого выхода в поле я люблю наблюдать угасание дня.

Бледное солнце, скользнув последним, уже холодным, лучем по глади полян, осветит чуть дрожащие вершины сосен, бризнет позолотой по краям одиноко плывущего облака и сразу потухнет в густой сини листопадных сумерок.

Полями, низинами, оврагами поплывет темнота и к безветрию, к утреннику-морозцу, будут ярко светиться неисчислимые звезды.

* * *

Голубовато-зеленый рассвет настиг меня далеко от сторожки,—среди серой полевой пустыности.

Шмыгающим шагом охотника-следопыта я быстро побеждал пространство, приближаясь к темно-синим зарослям низкорослых ельников, что гребенкой торчали по вершинам холмов, по склонам сбегали в лощины и пропадали где-то далеко в блеклости осенних пространств.

„Лески“, „Уболотье“, „Перетока“—все места залегли самые заячьи, недаром издавна укрепилось за ними, среди охотников, название—„Золотое дно“.

На перекрестке трех тропинок я дал волю собаке.

— Ну, „Эльбочка“—не выдавай!

А „Эльбы“ уж нет. Ушла, пропала, только стежку оставила на росистой траве.

Еще минута и тишина утра нарушилась. Запела „Эльба“, и как запела! Что за голос, что за переливы! И все ближе и ближе.

Вот шархнули листья. На узкой прогалине, серым комом, мелькнул русак и „закурил“ па дороге.

— Шалишь, не уйдешь! — и мушка моего ружья уже скользит по курчавому „ремню“ спины матерого зайца.

---

Я доволен хорошим началом. Заяц огромный, а главное „Эльба“ работает славно. Не успела получить „пазанки“, опять пропала.

Скоро опять подняла и с веселым заливистым звоном пошла по первому кругу.

* * *

К вечеру ремень сумки сильно натер мое плечо.

Дома, рассматривая убитых зайцев, я продолжал восхищаться „Эльбой“. Думал о ее будущем потомстве,—славной голосистой стае.

---

Ночью „Эльба“, спавшая в сенях, тихонько заскулила. Я выпустил собаку на двор, а сам опять задремал утомленный охотой.

Мне чудилось, что „Эльба“ гоняет зайца. Сначала завела тихонько, потом все громче и громче,—прямо звон в ушах от песни.

Я проснулся. Прислушался и сорвался с постели. Где то далеко за сторожкой жалобно ныла „Эльба“.

С ружьем я выбежал на двор.

„Эльба“ уже не голосила.

Черная большая фигура волка метнулась в сторону борового перелеска.

Я вскинул ружье и нажал оба спуска.

Волк прыгнул и сделался невидимым.

Я позвал.

— Эль-ба!

Невнятно откликнулось эхо.

Идя за фонарем, у плетня я споткнулся о что-то мягкое.

Это была „Эльба“. Я вскинул ее на руки. По пальцам, щекоча кожу, текла липкая кровь.

Едва успел я разжечь лучинку, как из разодранного волчьим клыком горла собаки вырвалось хриплое клокотание и сразу оборвалось.

„Эльба“—кончилась...

**А. Кляевский.**

# КАРЦЕЧЧУ ПА



Фэльетон.

## Белдзяржгандаль і вавёркі.

Што б вы сказалі, паважаны чытач, на такі факт?

Вы выйшлі прагуляцца. Быў летні дзень. У паветры стаяла такая духата, што вы чуць-чуць дабраліся па пыльных вуліцах гораду да сада, ну... сада агульнага карыстаньня таго гораду, дзе гэта было. Вы увайшлі ў сад і... жах абхапіў вас, мурашкі пабеглі па сярэдзіне.

Увесь сад разбуран; скамейкі павывернуты; дрэвы паваленны—іх паліць сонца і вяне лісьцё, скручваецца ў трубачкі. Трава ў саду павытаптана, вяне, дарожкі забруджаны; градкі, дзе расьлі некалі цьвяты, папсаваны; пакапаны некім палкай і некалі жыўшыя цьвяты зараз валяюцца на сьцежках у садзе бяз усякіх адзнак жыцьця.

Вы зьняможаны жарынёй, шукаеце месца адпачынку, але такога ў разбураным садзе не знаходзіце.

Тады вы скідаеце з сябе лішняе адзеньне і прымаецеся за работу, бо вы ня можаце глядзець на царыўшы ў садзе беспарадак. Ставіце паваленыя дрэвы, у адной з будак для прадажы „хлебнага квасу" знаходзіце лапатку і абкапваеце іх. Падымаеце і ўмацоўваеце скамейкі, папраўляеце градкі з цьвятамі і паліваеце іх вадой, а сьцежачкі падмятаеце і пасыпаеце жоўценькім пяском.

Толькі вы канчаеце працаваць і гатовы распалажыцца ў цяньку пад дрэвам адпачыць, як прыходзіць адзін з старажоў саду плячысты дзядзька і, абвёўшы ўзглядам сад, пачынае разбураць тое, што вы толькі што зрабілі.



І зноў валяцца дрэвы, трашчаць іх карэньні.

Што-б вы сказалі на такі факт?

Вы-б не сказалі нічога, у вас-бы затросься падбародак ад жаху і злосьці, але вы не сказалі-б нічога? вы паціснулі-б плячамі і памаленьку на... папятную, бо вы бачылі, з якой сілай разбураў сад плячысты мужчына.

Але сторож хоча яшчэ жартаваць; ён наганяе вас, б'е па патыліцы і гоне з саду.

Зараз вы скажаце, што гэтага ня можа быць?

А вось паслухайце.

Абшарнікі нам пакінулі разбураную паляўнічую гаспадарку. Рабочыя і сяляне ўзялі гэту спадчыну і ў асобе „Белкохотсоюза" пачалі аднаўляць, папраўляць разбуранае. На дапамогу яму прышлі зацікаўленыя арганізацыя і ўстановы, якія выдалі пэўныя законы для аднаўленьня і разьвіцьця яе.

Некаторыя зьверы і птушкі былі зусім забаронены да адстрэлу, бо яны або колькасна зьмяншаліся, або выміралі зусім. Каб гэтыя законы выконваліся, Саўнаркам выдаў яшчэ адзін закон, які забараняе прадажу і куплю тых зьвяроў, птушак і іх скурак, якія забаронены да адстрэлу і такі гандаль караецца, як купля крадзенага.

Саюз паляўнічых выконвае і ажыцьцяўляе гэтыя законы. Але ня так глядзіць на гэтую справу Белдзяржгандаль, карыстаючыся правам „плячыстага дзядзькі".

У 1929-30 годзе з 1 сьнежня была дазволена да адстрэлу вавёрка. У нас, у Беларусі ёсьць яшчэ шмат браканьераў, якія пачалі біць вавёрку да тэрміну, а Белдзяржгандаль скупляць па павышанай самавольна цане.

29 лістапада складзен акт Селібскай ячэйкай на Селібскае аддзяленьне Белдзяржгандлю за скупляньне вавёркі з 15 лістапада. Да гэтага часу загадчык аддзяленьня Белдзяржгандлю купіў 39 скурак вавёркі. Пры складаньні акту Селібская ячэйка патрабавала паказаць квітанцыі для выяўленьня браканьераў. Загадчык аддзяленьня Белдзяржгандлю паказаў адносіну за № а, С (5ц) ад 15/X—1929 г. на права скупкі вавёркі, а квітанцый не паказаў, бо іх ня піша.

2 сьнежня старшыня райбюро калектыву паляўнічых Сіроцінскага раёну паведамляе „Белкохотсоюз".

„28 лістапада мною ў Шумілінскім аддзяленьні Белдзяржгандлю выяўлены скуркі белкі і на пытаньне, хто іх прадаў, загадчык аддзяленьня Дзяржгандлю гр. Дабрамысьлін, да рэчы пазбаўлены выбарчых правоў, адказаў, што ён не памятае і запісаў прадаўцоў пушніны не вядзе; лічу, што і ў іншых аддзяленьнях Белдзяржгандлю маюцца такія недарэчнасьці". Мы маем весткі, што, менавіта, такія ўчынкі адбываюцца па ўсёй Беларусі.

Калі да гэтага дадаць яшчэ тыя заметкі, якія былі зьмешчаны аб дзейнасьці Белдзяржгандлю ў мінулых нумарох, „П. Б.", а таксама ў гэтым нумары і тыя лісты, якія атрымліваюцца амаль што кожны дзень „Белкохотсоюзом", то атрымаем поўнае ўражаньне аб „плячыстым дзядзьку", які разбурае тое, што было зроблена іншымі.

„Белкохотсоюз", Наркамзем, Наркамгандаль асыгноўваюць грошы на аднаўленьне і разьвіцьцё паляўнічае гаспадаркі; на барацьбу з браканьерамі;

# ГАЛАВАЦЯПАХ, БЮРАКРАТАХ І БРАКАНЬЕРАХ



„Белкохотсоюз“ думае рабіць падсадку зьвяроў і птушак, сеяць травы для падкормкі, арганізоўваць пушное звераводзтва, а Белдзяржгандаль адным узмахам разбурае ўсе гэтыя пачынаньні.

Ды хіба толькі адзін ён?

З 23 лістапада па 8 сьнежня мне прышлося пабыць у раёне і я ўпэўнен зараз у тым, што пакуль з пушнога рынку ня будуць зьняты прасолы розных устаноў, спажывецкія, жывёлагадоўчыя і малочныя таварыствы і інш., пакуль іх не пазбавяць права пакрываць браканьераў, мы правільнае паляўнічае гаспадаркі не пабудуем, бо па вёсках разьяжджаюць прадстаўнікі гэтых установ, скупляюць вавёрак, выдраў, куніц у той час, калі яны забаронены да адстрэлу па цэнах вышэй за ўстаноўленыя, чым выклікаюць ажыятаж на рынку.

Трэба сурова пакараць нарушыцеляў закону. **М. Я. Цэлеш.**

## Рэчыцкае Аддзяленьне Белдзяржгандлю пакрывае браканьераў і спэкулянтаў.

Дуброўскай паляўнічай ячэйкай Рэчыцкага раёну ў прысутнасьці прадстаўніка Рэчыцкага райвыканкому і Дуброўскага с-с. 1-XII быў накрыт агэнт Белдзяржгандлю Надэльман, які купіў 27-XI куніцу па яго славах ў невядомага паляўнічага (браканьера).

Куніца была ў агента адабрана як адстрэленая ня ў тэрмін. У агента быў адабран і прасрочаны патэнт.

3 сьнежня ў Рэчыцкі калектыў ўскочыў загадчык Рэчыцкага аддзелу Белдзяржгандлю і закрычаў: „Як вы можаце адбіраць пушніну ў нашых агэнтаў. Вы падрываеце работу Белдзяржгандлю. Я заяўлю пракуратуры“.

Калі прадстаўнікі Дубровенскай ячэйкі растлумачылі загадчыку, што куніцу адабралі, як незаконна адстреленую, то ён адказаў: „Что нельзя союзу охотников, то можно Госторгбелу“.

Пракуратура Гомельскае акругі павінна зацікавіцца гэтай справай і прыцягнуць да адказнасьці вінаватых у скупцы „крадзенага“. **Бабчонак.**

## Цішыня і супакой.

*(Барысаўскі раён).*

Жыло сабе ціханька *Зембінскае* падраённае бюро калектыву паляўнічых і нічога нікому ні ў чым не перашкаджала. Нават ня ведала яно, што недзе існуюць савецкія і партыйныя ўстановы.

Але вось ліха. некаму прыйшло ў голаву пацікавіцца, што за зьвер - дзічына так ціха пажывае, дый давай яго шчупаць.

Прачнулася, запалохалася падрайбюро, але ўжо позна. Рабочая брыгада з партактыву Земаіна і прадстаўніка райбюро т. Бельскага 17 лістапада цап царап за каршэнь падрайбюро, а там у мяккай поўсьці пушніны... рэвізійная і культкамісіі так смачна сьпяць, што аж не пачулі, як іх прыхлопнулі... і выявілася: само падрайбюро ня ведае колькі ў яго сяброў, некаторыя сябры па сьпісу падвоіліся (мертвыя душы) у калектыве састаяць і падсудныя, і падпапоўнікі і кулакі самыя пэўныя.

Нават у самой культкамісіі быў кулачок з х. Янова Сакалоўскі Язэп.

Ня дзіва, што там нанава цішыня.

17 лістапада брыгада сабрала агульны сход, на якім было пераабрана падрайбюро, рэвізійная і культкамісія. Вычышчана з калектыву 24 паляўнічых.

**433.**

## „Прыняць да ведама“.

*(Аршаншчына).*

Першым ідзе Аршанскае райбюро. Разглядзеўшы праэкт дагавору, дасланы Акрпраўленьнем, пастанавілі—„Прыняць да ведама..“ і кропка. Так і ляжыць пад спудам.

Гарадзкі калектыў на-чале з сябром Акрпраўленьня т. Мачевічам не знайшоў патрэбным нават абгаварыць на пасяджэньні гэта пытаньне.

Чарэйскае райбюро на пасяджэньні ад 15/IX 1929 г. (пратакол № 6) выклікала Крупскае райбюро, якое і па сучасны момант маўчыць, як „вады ў рот набраўшы“. Але і Чарэйскае далей выкліку не пайшло.

Багушэўскае райбюро на-чале з т. Казачонкам, ня гледзячы на тое, што я сам некалькі разоў дагаварваўся з ім, яшчэ не сабрала сходу і не абгаварыла гэта пытаньне.

Ляднянскае, Круглянскае, Копыскае, Дрыбінскае, Крупскае, Коханаўскае, Горацкае, Дубровенскае і Расьнянскае райбюро не праўляюць ніякіх адзнак аб жыцьці. Можа памымерлі?

Соцспаборніцтва мае актуальнае значэньне для паляўнічае каапэрацыі і паляўнічыя масы павінны ўзяцца за гэту справу і моцна ўстрахнуць сваіх кіраўнікоў. Акруговае таварыства павінна даць дапамогу масам.

**Федаровіч.**

